Год IV. Люты 1935 г. № 2 (38)

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты єси Пе́тръ, и на се́мъ ка́мени сози́жду це́рковь мою́. Мата. ѕі. иі.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

З Ь М Е С Т:

1. Нядзеля 32 па Сёмусе — а. Антоні.
2. З Румыніі — а. Андрэй Багуслаўскі.
3. Расчараваньне савецкіх бязбожнікаў.
4. Спамін (*верш*) — У. Б.
5. Наш адказ — Злучэнец.
6. Урачыстасьць сьв. Велікамучаніцы Параскевы ў Бабровічах — М. Лукашэвіч.
7. Хроніка.
8. Куток для дзяцей.
9. Дружба (*верш*) — У. Б.

**„Да Злучэньня!“**

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Люты 1935 г. № 2 (38).

# Нядзеля 32 па Сёмусе.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 19, 1—10, ЗАЧАЛА 94.*

1. Таго часу Ісус праходзіў праз Ерыхон.

2. І вось чалавек на імя Закхей, старшы ў мытараў, а быў ён багаты.

3. І хацеў убачыць Ісуса, які Ён ёсьць, а ня мог за народам, бо быў малога росту;

4. А бягом апярэдзіўшы, узьлез на дрэва смокву, каб увідзець Яго, бо Ён меўся тудою праходзіць.

5. А прыйшоўшы на тое месца, Ісус, глянуўшы, убачыў яго і сказаў яму: Закхей! пасьпяшыся зыйсьці, бо сягоньня мне трэба быць у тваім доме.

6. І скоранька зыйшоў і прыняў Яго з радасьцяй.

7. А ўсе, убачыўшы, наракалі, кажучы: Што да грэшнага чалавека зайшоў у госьці.

8. А Закхей, стаўшы, сказаў Госпаду: Госпадзе! вось палавіну свае маемасьці я аддам убогім: а калі каго ў чым-небудзь скрыўдзіў, аддам чатыракротна.

9. Ісус-жа сказаў: Што цяпер прыйшло спасеньне гэтаму дому, бо і ён ёсьць сын Абрагама.

10. Бо Сын Чалавечы прыйшоў шукаць і спасьці тое, што было загінуўшы.

---

*„Бо Сын Чалавечы прыйшоў шукаць і спасьці тое, што было загінуўшы“.*

*(Лук. 19, 10).*

Слава Ісуса Хрыста Цудатворцы разышлася па ўсёй зямлі Жыдоўскай. Натоўп народу ішоў за Хрыстом, кожны жадаў убачыць нязвычайнае зьявішча – цуд ды паўглядацца на дзіўнага Вучыцеля з Назарэту, паслухаць Яго навукі.

Падыходзячы да места Ерыхону, Хрыстос аздаравіў сьляпога, даў яму магчымасьць бачыць, – **„І ўвесь народ, бачачы гэнае, аддаў хвалу Богу“.** (Лук. 18, 43).

У Ерыхоне жыў багаты чалавек, на імя Закхей, начальнік мытараў. Шмат і ён чуў аб Вучыцелю з Назарэту. Нейкая сіла цягнула яго да Хрыста. Пачуўшы, што ідзе Ісус Хрыстос, жадаў прыблізіцца ды паўглядацца на Яго. Натоўп народу не пазваляў прыблізіцца да Хрыста, нават здалёк ня мог Закхей Яго ўбачыць, бо быў малы ростам. Што-ж ён робіць? **„А бягом апярадзіўшы, узьлез на дрэва смокву“** (Лук. 19, 4) і чакае, бо Хрыстос мусіць прайсьці міма.

**„А прыйшоўшы на тое месца, Ісус, глянуўшы, убачыў яго і сказаў яму: Закхей! пасьпяшыся зыйсьці, бо сягоньня Мне трэба быць у тваім доме“.** (Лук. 19, 5).

Як-жа добрым быў Ісус Хрыстос: зразумеў жаданьне Закхея-мытара і ашчасьлівіў яго прысутнасьцяй у яго доме. Ведаў добра Збаўца, кім быў Закхей, ведаў таксама, якое ўражаньне зробіць на прысутных: **„А ўсе, убачыўшы,** — кажа сьвятое Пісаньне, — **наракалі, кажучы: што да грэшнага чалавека зайшоў у госьці“.** (Лук. 19, 7). Ня раз Хрыстос збліжаўся да грэшнікаў, часта з імі частаваўся і гаварыў, так што называлі Яго прыяцелем грэшнікаў.

Ісус Хрыстос выразна кажа ў сьвятым эвангельлі, чаму гэтак робіць: **„Бо Сын Чалавечы прыйшоў шукаць і спасьці тое, што было загінуўшы“.** (Лук. 19, 10)

Вось прычына, чаму Збаўца не пагарджаў беднымі грэшнікамі, чаму йшоў да іх, бо жадаў збавіць іх.

У прыповесьці аб загінуўшай авечцы, навучае, як вельмі цешыцца Айцец Нябесны з навярненьня аднаго грэшніка; радасьць яго большая, як з 99 справядлівых, што не патрабуюць пакуты. Бог Айцец з вялікаю радасьцяй гатоў прыняць нават вялікага грэшніка, як гэта мы бачым у прыповесьці аб блудным сыне.

Ісус Хрыстос навучае нас сваім прыкладам, як маем і мы адносіцца да вялікіх грэшнікаў, да тых, што адступілі ад Бога, ад праўдзівае Хрыстовае царквы.

Ня можам мы сваімі адносінамі заблудзіўшых братоў умацоўваць у заблуджэньні. Калі няма ніякае надзеі іх на-

вярнуць, тады найлепей з імі не важдацца. Ісус Хрыстос зацьвярдзелых ды гордых фарысеяў называў пабеленымі грабамі, родам яшчарчым, публічна іх дакараў, ня меў з імі нічога супольнага, — але тых нават і з фарысеяў, што былі добрае волі, не адпіхаў ад сябе, з імі часта гутарыў.

Так сама і мы павінны паступаць: калі ёсьць магчымасьць навярнуць заблудзіўшага брата, павінны мы памагчы яму знайсьці праўду, навярнуцца да праўдзівае веры. Трэба ненавідзець грэх ды хвальш, але грэшнікаў ды заблудзіўшых у няпраўдзе маем абавязак любіць.

У нашыя часы асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на баптыстаў ды іншых падобных да іх сэктантаў. Па прычыне агульнага крызысу, вельмі зьменшылася матар'яльная помач Амэрыкі для справы пашырэньня ў нас сэктанства, дзеля гэтага сэктанства ў нашай старонцы ўжо не пашыраецца, а памалу вымірае. Шмат ужо пакінула заблуджэньне, а яшчэ больш ёсьць паміж імі такіх, што ўжо пераканаліся ў ашуканстве розных „прыблудаў-прапаведнікаў", ды толькі ня маюць адвагі прызнацца да заблуджэньня. Ім здаецца цяжкім вярнуцца да тых, што рабілі ім прыкрасьці ды цяпер мо' будуць з іх сьмяяцца. Кожны чалавек мае ў сабе больш ці менш самалюбства, дзеля гэтага вельмі баіцца, каб з яго не пасьмяяліся. Ня так лёгка чалавеку прызнацца да памылкі, перамяніць сябе ды сваё жыцьцё. Трэба памагчы такому чалааеку. А як памагчы?

Першая рэч,—трэба яму вытлумачыць, што ніхто з яго ня будзе сьмяяцца, а наадварот — кожны пахваліць, што пакінуў сэктантаў і вярнуўся да праўдзівае Хрыстовае веры.

Асабліва трэба нам парупіцца аб тым, каб паказаць бліжняму нашаму заблудзіўшаму брату дабрату сэрца. Чаму нездаволены баптыстыя з сваіх павадыроў? Адзін баптысты мне адкрыта сказаў: — Яны добра навучаюць, але ня жывуць паводле Хрыстовае навукі.

Ці добра хто навучае, ці дрэнна, ня кожны патрапіць сьцяміць, а ці дрэнна хто паступае, гэта кожны хутчэй патрапіць зразумець. Напэўна, калі акажам беднаму чалавеку сэрца, калі паможам яму ў цяжкую мінуту жыцьця, то ён ніколі гэтага не забудзе. Па нашых паступках людзі судзяць аб нашай рэлігіі. Больш можна зрабіць праз адзін добры пастутак, хутчэй можна пераканаць, як праз тысячу вельмі разумных спрэчак.

Ня трэба з баптыстымі і падобнымі сэктантамі спрачацца, бо яму хоць калы на галаве стругай, а ён усё сваё. Можна пагаварыць, вытлумачыць няяснае, але спакойна, без жаданьня паказаць сябе разумнейшым, вышэйшым, а толькі дзеля праўды ды дабра бліжняга, і тады можна спадзявацца добрага рэзультату.

Вось прыклад. Пазнаў я аднаго баптыстага, раз і другі яго адведаў. Многа не гаварыў з ім, але выявіў яму сваю прыхільнасьць, аказаў яму невялікую услугу. Рэзультатам было тое, што баптысты пакінуў сваё заблуджэньне, прыняў Сьв. Унію і стаў прыкладным членам Хрыстовае Сусьветнае Царквы.

Як калісьці Хрыстос зайшоў у дом мытара Закхея, каб яго навярнуць ды збавіць, так і мы павінны рупіцца аб тым, каб навярнуць нашых заблудзіўшых братоў. Калі будзем шчыра любіць нашых братоў і выявім нашае сэрца, а Госпад Бог сваею ласкаю нам паможа, та напэўна прыслужымся да збаўленьня заблудзіўшых і праз гэта самае і сабе заслужым нагароду ад Збаўцы Сьвету. Амін.

*а. Антоні.*

---

# З Румыніі.

У XVI стагодзьдзі рускія, яшчэ праваслаўныя, япіскапы злучыліся з Каталіцкаю Царквою, каб ўратаваць для свайго народу веру. Пратэстантызм увайшоў у Польшчу і нарабіў вялікае шкоды веры і абычайнасьці. Лацінскія каталікі, пад апекаю Сьвятое Сталіцы, перамаглі доўга паграseverity гражаўшую небясьпеку. Патрыярх царгародзкі аказаўся зусім слабым перад напорам магутнага ворага, — адсюль зварот верных Русінаў да Рыму.

У канцы XVII ст. бачым нешта падобнае ў Сямёхгорадзьдзі сярод праваслаўных Румынаў. Вонкава магутны кальвінізм прыгарнуў да сябе паважную часьць румынскага жыхарства, так што, паводле доказу А. Каноніка д-ра Бунэа, у Сямёхгорадзьдзі былі дзьве цэрквы: адна праваслаўная, а другая з усходнімі цэрамоніямі, але з верaю кальвінскаю. У гэтых варунках і сямёхгорадзкія Румыны злучыліся з Каталіцкаю Царквою.

Рух да Рыму, які праяўляецца цяпер у Бэсарабіі пад павадырствам паважанага пратаерэя Чэкана (Cecan) мае падобнае пабуджэньне, хоць і на шырэйшай аснове, але заўсёды пад клічам апекі Сьвятое Сталіцы над скарбамі хрысьціянскае веры. Там ня ідзе аб рознасьць догматаў хрысьціянскіх веравызнаньняў, а аб цэласьць рэлігіі наагул, аб ўратаваньне жыхарства, — якое гардзіцца рымскім паходжаньнем, выражаным нават у самым назове румынскага народу, — ад бязбожніцкага патопу бальшавікоў.

Вельмі выразна сьведчыць аб гэтым звароце да Рыму гутарка а. Чэкана з рэдактарам каталіцкага румынскага двутыднёвіка „Farul nou“ п. адвакатам Антонам Фрольлё ў Букарэшце, апублікованая ў № 25 за 25 лістапада 1934г.

Выбіраем з адпаведнага артыкулу толькі выдатнейшыя часьці.

— Як мы маглі-б, паводле думкі Вашае Правялебнасьці, бароцца з хваляю неморальнасьці, якая нас залівае? — спытаўся п. Фрольлё ў айца Чэкана.

— На барацьбу адказваюць барацьбою, — жыва заўважыў пратаерэй. — Не дарма Папа Піус X сказаў, што дарэмна будуем цэрквы, манастыры, школы і дамы; усё гэта ня будзе нашым, калі прэса ня будзе ў нашых руках. Нічога не шкадуйма дзеля ўзмацаваньня прэсы. Лепш прадайма нашыя будынкі, збудаваныя з мёртвага каменя і будуйма жывыя душы людзей. А перад супольным ворагам **злучэм усіх хрысьціян, паводле заахвочваньня Папы.**

— Ці Вы, а. Пратаерэй, думаеце, што злучэньне ўсходняе царквы з заходняю ўдалося-б зьдзейсьніць? — спытаўся п. адвакат Фрольлё.

— Я пэўны, што ўдалося-б, — адказаў паважаны пратаерэй. — Калі мы, праваслаўныя, ня злучымся з вамі, дык згінем. Гэтак згінула Расея, гэтак загінуў цар і бяда расейскім праваслаўным. З 180 мільёнаў праваслаўных сяньня засталося толькі 25 мільёнаў дый то разлучаных. Тымчасам каталіцызм налічвае заўсёды болей верных, дысцыплінаваных і паслухняных. Папа ёсьць моральнаю магутнасьцю, якая не дае перамагчы сябе. Ён ёсьць начальнікам і сувэрэнам наймагутнейшым на сьвеце. Да яго ўвесь чалавечы род хрысьціянскі павінен зьвярнуць свой пагляд і якраз найхутчэй, бо час ня мае цярпілівасьці. Ворагі нашыя ўжо падрыхтоўваюць свайго Цара — Антыхрыста. Дай Божа, каб мы ніколі ня былі падданымі гэтага цара! Тады ўжо позна будзе гаварыць аб Уніі, як у Расеі, дзе кара сьмерці паложана за кожнае хрысьціянскае слова.

— Як, па Вашаму, айцец Пратаерэй, мы маглі-б дзейнічаць?

— Перш за ўсё асьвечвайма народ, каб найменшае дзіця зразумела Унію і жадала яе. Калі народ будзе гатовым, дык паддадуцца і магутныя, якія адзіна толькі працівяцца Уніі. На нашым бэсарабскім конгрэсе, які нядаўна адбыўся, было 46 сьвяшчэньнікаў і 50 дзякоў ды настаўнікаў. З усіх прысутных а ніводзін ня быў проці прачытанае там пастановы на карысьць Уніі. Духоўнікі абавязаны асьвечваць верных. Гэта іх пакліканьне, іншыя справы хай адыйдуць на задні плян, а мы з Вамі, пане адвакаце, пішэм штодзенна. Сьв. Айцец павінен выслаць кожнаму праваслаўнаму япіскаму пісьмо, выказваючы ў ім небясьпеку з боку ворагаў Царквы і заахвочваючы да Уніі.

— Ці шмат ёсьць праціўнікаў Уніі?

— Толькі неасьведамленыя і гордыя. Першыя ня хо-

чуць ні бачыць, ні чуць, другія баяцца згубіць свае годнасьці. Сільныя ёсьць сільнымі вінавайцамі.

Магу сказаць, што ў Бэсарабіі ёсьць шмат сотняў вельмі інтэлігентных сьвяшчэньнікаў, якія зразумелі-б патрэбу злучэньня цэркваў. Яны жадаюць гэтага і толькі чакаюць на ініцыятыву ў гэтай сьвятой справе.

Сягоньня Патрыарх і япіскапы робяць і гавораць ў царкоўных справах тое, чаго сабе хоча ўрад, які часта пакідае шляхі Хрыстовыя. Калі-б яны былі злучаны з Папаю, дык урад рабіў-бы тое, што яны скажуць, каб сьветам і людзьмі кіраваў Хрыстос, Стварыцель іх, цераз Царкву сваю, а ня сьвецкія людзі, сыны Царквы, якія часта зьяўляюцца атэістымі. Калі зямныя ўлады будуць выбраны паводле духу Хрыстовага, дык ня будзе тых несправядлівасьцяў, якія сягоньня на сьвеце робяцца, ня будзе і вайны, бо народы раззброяцца.

Не дарма Лёйд Джордж сказаў, што цяпер уся надзея ляжыць на Царкве, у праціўным выпадку сьвет загіне.

Дай Божа, каб пляны а. Пратаерэя зьдзейсьніліся!

*а. Андрэй Багуслаўскі.*

---

## Расчараваньне савецкіх бязбожнікаў.

Парыская газэта расейскіх эмігрантаў „Послѣднія Новости“, з прычыны праваслаўных сьвятаў Хрыстовага Нараджэньня, зьмясьціла некалькі вельмі цікавых выразак з савецкае прэсы, якія сьведчаць, што ўся даволі дарагая бязбожніцкая прапаганда разьмінаецца з мэтаю і кіраўнікі савецкага бязбожніцкага руху глыбока расчароўваюцца.

У адным з нумароў часопісі „За коммунистическое просвещение,“ ў перадавым артыкуле чытаем: „Мы хацелі-б выхаваць пакаленьне ваяўнічых бязбожнікаў... Але, хацелі-б выхаваць, але сяньня, ох, за 17 гадоў камунізму ўсё яшчэ ня маем гэткае вышкаленае арміі. **ячэйкі** бязбожнае моладзі, так сама, як і антырэлігійныя саюзы, робяць вельмі мала. Дасюлешнія мэтоды прапаганды зусім малыя, а нашыя прапагандыстыя ўсе разам, кажучы агульна, не дарасьлі да свае задачы. У шмат якіх школах можна заўважыць спраціўленьне проці антырэлігійнае навукі, якое не дае сябе здушыць. З вельмі шмат якіх **колхозаў** надыходзяць весткі, што лекцыі бязбожніцтва, з прычыны малсга ліку слухачоў, выкінены з пляну лекцыяў. Школьныя інспэктары сьведчаць, што ў шмат якіх ваколіцах сільна спала ан-

тырэлігійнае навучаньне. Як-жа ў гэткіх варунках можа вырасьці пакаленьне баявых бязбожнікаў?“

Галоўны орган антырэлігійнага руху «Безбожник» піша: „Тыя часы, калі ленінградзкія бязбожнікі з энэргіяй прыступалі да справы, ужо далёка за намі. Бязбожніцкія ячэйкі дзейнічаюць слаба, а ў шмат якіх мясцовасьцях арганізацыя зьяўляецца мёртваю. Сябры саюзу ваяўнічых бязбожнікаў выказваюць вельмі нізкую дзейнасьць, на лекцыі і курсы ніхто ня прыходзіць, дысцыпліна зьмягчэла. У абкружэньні нашым бачым, што „эвангелістыя“ ўвесь час вакол сябе зьбіраюць што раз дык болей моладзі, во—прылучаецца да іх нават і значная часьць старэйшых.“

Далей „Безбожник“ пералічвае шмат якія мясцовасьці, дзе бязбожнікі „закінулі свае абавязкі, каб у час пагасіць зарава рэлігійнага вар‘яценьня, якое заўсёды лёгка ўзрываецца полымем.“ Ёсьць чугуначнікі, якія ізноў, як даўней, жагнаюцца, калі міма іх праяжджае цягнік, ёсьць сябры партыі, каторыя... адведваюць зборкі верных... нават у ячэйках ёсьць шмат такіх, якія рэгулярна ходзяць у царкву.

Адна правінцыяльная газэта з г. Іванава ў цэнтральнай Расеі са злосьцю паведамляе, што вельмі часта дзеці сяброў колхозаў прыходзяць да сваіх бацькоў і просяць пару капеек на складку для мясцовага сьвяшчэньніка. У шмат якіх ваколіцах рэлігійнасьць сярод прыгнятанага жыхарства значна пашырылася ў працягу некалькіх апошніх месяцаў. У Рыбінску, — як пішуць бальшавіцкія газэты, — з пэўнага часу ўдачна дзейнічае адна сэкта, якая прапагуе „вельмі небясьпечныя“ рэчы для цэласьці савецкіх граніцаў; сэкта гэтая вучыць, што, ў выпадку нападу на СССР „імпэрыялістычных“ дзяржаваў, зусім ня трэба бараніцца, замест гэтага процістаўляючы мобілізацыйным загадам ціхае спраціўленьне.

У адным правінцыяльным мястэчку старшыня мясцовага клюбу бязбожнікаў проста піша: „Ані ў нашым горадзе, ані ў яго ваколіцах ня існуе сяньня аніводнае нават найменшае групы ваяўнічых бязбожнікаў. На абшары вялікіх лікам дзесяткоў кілёмэтраў ёсьць толькі адзін адзіны бязбожнік: я сам...“



## *Спамін*

*Жыцьцё ня верне нам назад*
*Спамінаў завіруху*
*І дзён пражытых, столькі шмат,*
*У адным супольным духу.*

*Юнацкі век—то пышны сад*
*Убраны ў кветак пуху,*
*Хоць зьменны так, як вадаспад,*
*У сваім шалёным руху.*

*Аднак, заўваж, што з-пад вады*
*Усё, пры вадаспадзе,*
*Арэ ў зямлі свае сьляды.*

*Так сама век наш малады, —*
*Хоць праміне як цьвет у садзе,—*
*Спамін пакіне наўсягды.*

*У. Б.*

---

# Наш адказ.

Часта робяць нам закід нязлучаныя праваслаўныя, што, прыняўшыя Сьв. Унію, маласьведамыя уніяты, застаюцца ў душы такімі-ж праваслаўнымі, якімі і раней былі.

Запраўднасьць паказвае, што народ, якому перад 100 гадамі прымусова навязана адступніцтва ад Сьв. Уніі, або прыняў каталіцтва лацінскага абраду, або застаўся такім, якім быў. Маскоўскае праваслаўе толькі праз увесь час псавала рэлігійную душу народу, а перарабіць яе на праваслаўную не перарабіла. Нават вонкава народ змусіў праваслаўную царкву прыняць абрады уніяцкія, напрыклад, сьвячэньне сьвечак (грамніцаў) на сьвята Стрэценьня Госпадавага. У некаторых мясцовасьцях сьвяткуюць, паводле старога стылю, 13 чэрвеня Сьв. Антонія (Падуанскага)—сьвятога лацінскага абраду.

Як „глыбока“ пранікла маскоўскае праваслаўе ў душы, добра сьведчыць гэткі прыклад: учорака да мяне прыйшло 3 „праваслаўных“ Чэхаў, адзін стары і 2 маладых. Стары расказваў, што іх, Чэхаў, змусілі ў 1890 годзе прыняць праваслаўе. Чэхі купленае тут зямлі не хацелі пакінуць, а ім загразілі, што калі ня згодзяцца прыняць царскае веры, дык мусяць выехаць вон. Прыняцьце адбывалася якраз

у той царкве ў Дубне, каторая цяпер належыць да Папскае Уніяцкае Сэмінарыі. Прызнаецца стары, што дрэнна зрабіў, але ня мог інакш.

— „А я, — кажа, — які быў, такім і застаўся, гавару свае каталіцкія малітвы, ніколі не жагнаюся паіхняму, а пакаталіцку,“ — і паказаў, як жагнаецца.

— А чаму-ж цяпер ня вернецеся фармальна да тае веры, ў якой радзіліся і маліліся?

— А як вярнуцца,? — кажа стары, — а мо' зноў маскалі прыдуць? што тады будзе? Ляпей хай будзе ўжо так.

Ня маюць, як бачым з гэтага прыкладу, „праваслаўныя“ перакананьня да маскоўскага праваслаўя, але ўстрымліваюць іх ад пераходу ў Унію розныя неразумна выдуманыя перашкоды ды сумляваньні.

Наш абавязак — зблізіцца да людзей, вытлумачыць іх сумляваньні, а тады яны ня толькі душой, але і целам, фармальна будуць належаць да сусьветнае царквы.

*Злучэнец.*

# Урачыстасьць сьв. Велікамучаніцы Параскевы ў Бабровічах

### Косаўскага павету, Палескага ваяв.

У дзень сьв. велікамучаніцы Параскевы, званай Пятніцаю, якая зьяўляецца, побач з сьв. Іоанам Багасловам, апякункай Бабровіцкай царквы і парафіі, адбылося тут, як і штогоду, вялікае сьвята. Народу сабралася вельмі шмат, ня толькі сваіх прыхаджанаў, але і з суседніх праваслаўных сёлаў, жыхары каторых выказвалі жаль, што да іх ня прыслалі уніяцкіх сьвяшчэньнікаў, аб чым прасілі некаторыя ўжо і па некалькі разоў, ды ўсё надарма. Пагода служыла як на заказ: ясна і цёпла, як на Пятра. Адна толькі рэч была непамысная, гэта тое, што з шасьцёх сьвяшчэнінькаў, прошаных на гэтае сьвята, ня прыехаў ані адзін, а гэта дзеля далёкасьці ды недагоднасьці даезду да Бабровіч. Айцу Паньку самому прышлося праводзіць усе службы, спавядаць і казаць пропаведзь, і ўсё гэта заняло больш як шэсьць гадзін беспераστанку.

Увечары таго самага дня адзін з бабровіцкіх жыхароў, які раней быў адным з найгалаўнейшых пашыральнікаў сэктанства, ды ўжо аж трое дзяцей гадаваў няхрышчанымі, — пакінуўшы сэкту, — прывёз усе трое да хросту і сам паважна прыглядаўся да сьвятых абрадаў хросту і мірапамазаньня.

Праваслаўныя духоўныя ўлады пасадзілі вакол Бабровіч самых гарачых і вучоных сьвяшчэньнікаў, каторыя высіляюцца як мага спраціўляцца уніі, але гэта ня вельмі памагае. Адзін з іх, папрабаваўшы гэткага змаганьня, праз нейкіх восем месяцаў, ужо пастараўся выбрацца на іншы прыход — „далей ад уніята“. Іншы гатоў быў-бы сам прыняць унію, але баіцца, што яго ня прымуць.

**М. Лукашэвіч.**

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Дубно.** На сьвята Хрыстовага Ражства гадунцы Сэмінарыі нідзе не паехалі, вельмі весела правялі разам Каляды, адпачылі да новае працы.

У хуткім часе маюць быць пасьвячаны ў дыяканы гадунцы сэмінарыі: Язэп Гадуцэвіч і Ефім Мэльнычук.

**Беласток.** „Kurjer Warszawski“ за 16.I.35. паведамляе, што ў Беластоку 500 асоб выявіла сваё жаданьне і прасіла Беластоцката Ваяводу, каб пропаведзі ў іхняй праваслаўнай царкве гаварыліся папольску. Наколькі гэта праўда, невядома.

**Мятын,** каля Роўнага. Перад Калядамі прыйшло ўрэшце на рукі настаяцеля а. Ільяна Гука паведамленьне з Ровенскага Староства, што Староства пазваляе ня толькі на дом малітвы для уніятаў, але і на часоўню.

Як цяжка ўжо прыходзілася мятынскім прыхаджанам! Непагода і мароз не пазваляў адпраўляць набажэнствы пад голым небам. У хаце зацесна. Дзьве нядзелі былі зусім бяз Службы Божае. Затое цяпер радасьць неапісаная. Людзі паставілі ўжо і іканастас, злажыліся і купілі панікадзіла за 150 зл., падсьвечнікі; 4 харугвы ўжо гатовыя, ды яшчэ дзьве вышываюць самі на месцы. Вось што значыць запал, вытрываласьць і ахвярнасьць для справы рэлігійнае!... Штосьвята і штонядзелі прыступае некалькі дзесяткоў асоб — мужчын і жанчын — да сьв. Споведзі і Прычасьця. Ні чым ня горш за каталікоў лацінскага абраду.

**Ковэль.** Я Пр. Уладыка Мікалай (Чарнэцкі) быў вызваны ў Рым, дзе меў аўдыенцыю ў Яго Сьвят. Папы Пія XI. У Рускай Калегіі пасьвяціў у дыяканы 6 гадунцоў і пасьля, праз Баўгарыю і Румынію, вярнуўся ў Ковэль.

**Дубно.** На месца Прат. Карвоўскага да праваслаўнага Сабору ў Дубне прыехаў з Баранавіч Мітрафорны Прат. Мацкевіч. Трудна яму было ў Баранавічах, меў шмат там ворагаў ды труднасьцяў у справах матар'яльных, невядома ці дасьць ён раду а прыхаджанамі ў Дубне, дзе шмат ёсьць сьведамых украінцаў.

Тымчасам да нашай уніяцкай царквы людзі пачалі штораз больш прыходзіць. На Новы Год наша зімовая царква так была набіта народам, што ня ўсе маглі ўвайсьці. За апошнія часы больш пачалі зьвяртацца да нас з „трэбамі"; хоць тут няма нават фармальнае парафіі, здарылася 4 хросты за пару тыдняў. Можна было-б сьмела адчыніць прыход у Дубне, меў-бы ён будучыню. Нажаль няма яшчэ лішняга сьвяшчэньніка, які пры Папскай Сэмінарыі выключна заняўся-б прыходам і душпастырска-місіянэрскай працай. Толькі час ад часу працуюць трохі аа. Прафэсары, і то толькі ў сьвята: у буднія дні маюць свае прафэсарскія абавязкі.

**Варшава. Скон** с. п. **Япіскапа Малецкага.** 17-га мінулага студня ў 9 гадз. 40 мін. раніцы ў санаторыі СС. Альжбетанак памёр с. п. япіскап Антоні Малецкі, апостальскі адміністратар Пэтэрбургу. Нябожчык япіскап доўгі час быў у бальшавіцкім вастрозе і на выгнаньні ў Сыбіры, і толькі ў канцы красавіка летась шляхам абмену быў звольнены пад варункам незадоўга пакінуць савецкую Расею. С. п. япіскап Малецкі налічваў 73 гады жыцьця, сьвяшчэнства 45 і япіскапства 8 гадоў.

За 9 месяцаў да сьмерці с. п. япіскап Малецкі прыбыў на ўсходні вакзал у вопратцы расейскага селяніна, а вярней у лахманох і падзёртым абутку, што вельмі добра сьведчыла аб яго перажываньнях і нядолі ў глухой бурацкай вёсцы, паложанай недзе ў глыбіні Сыбіру, адкуль вярнуўся ён на Бацькаўшчыну.

Напярэдадні скону, Нябожчыка адведаў Я. Эм. Кардынал Прымас Глёнд і іншыя япіскапы. Папскі Нунцы Я. Э. монс. Мармаджы ад імя сьв. Айца ўдзяліў паміраўшаму апостальскага багаслаўленьня. Цэлы тыдзень труна з целам япіскапа-мучаніка выстаўленай была ў архікатэдры сьв. Яна. 21 студня с. г. прах япіскапа А. Малецкага спачыў у падзямельлях катэдры.

**Ватыкан. Назначэньне апостальскага адміністратара для Лэмкаўшчыны.** Дэкрэтам сьв. Конгрэгацыі ўсходняе Царквы апостальскім адміністратарам для верных грэка-каталіцкага абраду на Лэмкаўшчыне назначаны а. Васілі Масьцюх, настаяцель парафіі Вялікая-Гаражанка. Дастойны номінат радзіўся ў 1873 г., высьвячаны ў 1899 г.

Апостальская Адміністрацыя, утвораная ў лютым 1934 г., абыймае гэткія дэканаты: Букоўско, Горліцы, Грыбаў, Дынаў, Дукля, Кросна, Мушына, Рыманаў і Сянок.

**Львоў. Новыя праваслаўныя япіскапы?** „Діло“ за 12.І.1935 г. паведамляе, што на апошняй сэсіі сыноду праваслаўнае Царквы адбыўся выбар трох кандыдатаў у япіскапы: архімандрыта Лаўрыненкі на япіскапа украінскае праваслаўнае царквы ў Паўночнай Амэрыцы, архімандрыта Пратасэвіча на япіскапа „бяльскага і вікарыя холмска-люблінскага(?)“ і архімандрыта Рудзіка на намесьніка Пачаеўскае Лаўры. Кандыдаты гэтыя прадстаўлены на зацьверджаньне ўраду. Значыцца будзе аж тры япіскапы нязлучанага праваслаўя на Валыні ды новы япіскап „бяльскі“. У часы вядомага Эўлёгія і найбольшага націску праваслаўя на польскія ды каталіцкія землі ня было гэткага ліку расейскае царкоўнае іерархіі.

**Вільня. Новая сэкта ў Віленшчыне і Наваградчыне.** Апошнім часам у Віленшчыне і Наваградчыне зьявіліся новыя сэктанты пад назовам „Мыючыя ногі“. Сэктанты здолелі ўжо сабраць каля 1000 прыхільнікаў. Яны замерваюцца залажыць уласныя малітвенныя дамы ў Віленшчыне.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**„Унія малітваў“ аб злучэньні Цэркваў. 25-я ўгодкі „Уніі малітваў“.** На месяц студзень с. г. вызначыў сьв. Айцец місійную інтэнцыю за „Унію малітваў“ аб злучэньні Цэркваў.

Думку „Уніі малітваў“ аб злучэньні Цэркваў: каталіцкае ды розных пратэстанскіх і схізматыцкіх кінулі 25 гадоў назад пратэстанты. Думку гэтую вельмі горача прынялі каталікі. Супольным паразуменьнем пастаноўлена па ўсім сьвеце адпраўляць штогоду ад 18 да 25 студня (г. зн. перад сьвятам навярненьня сьв. Апостала Паўла) восемдзённыя маленьні аб злучэньні ўсіх хрысьціянскіх Цэркваў на ўсёй зямлі. Практыку гэту зацьвярдзіў і багаславіў Папа Піус X, а Папа Бэнэдыкт XV паручыў яе ўсім верным, прадпісваючы для яе ў 1916 г. адносныя малітвы і абдарваючы яе шмат якімі одпустамі.

Веліч злучэньня хрысьціянскіх Цэркваў і абапёрця іх усіх аб Скалу Пятрову набірае спэцыяльнага значэньня ў цяперашні гістарычны мамэнт, калі ваяўнічае бязбожніцтва мабілізуецца да адкрытай барацьбы проці Хрыста.

**Рым. Каталіцкая часопісь у Сахары.** У хуткім часе выйдзе ў сьвет часопісь „Цэнтурыён“ для жыхароў-эўропэйцаў вядомае афрыканскае пустыні Сахары.

**Ватыкан. Прывілей вячэрняга Сьв. Прычасьця для ленінградзкіх каталікоў.** Сьвятая Сталіца спэцыяльнай пастановаю дала ленінградзкім каталіком прывілей прыступаньня да Сьв. Прычасьця таксама і ўвечары ў нядзелю, з засьцярогаю, што ад 18 гадз. ня будуць перад прыступаньнем

да Стала Господавага прымаць ніякае стравы. Прывілей гэты мае мэтаю даць магчымасьць каталіком, што прабываюць у саветах, выпаўняць рэлігійныя абавязкі тады, калі гэта было-б трудным у раньнія гадзіны.

**Парыж. Расейскі прафэсар у Францыі аб бязбожніках.** У апошнія дні сьнежня 1934 г. вядомы вучоны, прафэсар Парыскага Каталіцкага Інстытуту і дырэктар цэнтралі расейскіх курсаў у Лілі, Юры Маклакоў, адбыў некалькідзённае турнэ па большых гарадох Савойі з лекцыямі аб бязбожніках і іхнай прапагандзе. Лекцыі праф. Маклакова выклікалі вялізнае зацікаўленьне сярод мясцовага грамадзянства.

**Ватыкан. Крыху цыфраў аб разьвіцьці Царквы ў працягу 1934 г.** У працягу 1934 г. прыбыло ў Каталіцкай Царкве 13 новых епархіяў, цераз што агульны лік іх з 1154 ў пачатку году павялічыўся да 1167 на дзень 31 сьнежня. Лік апостолькіх вікарыятаў павялічыўся адначасна з 256 да 266, тымчасам як лік апостальскіх прэфэктураў зьменшыўся з 104 да 102. Гэта сталася таму, што адна з іх прызнана была аўтаномнаю епархіяй, а лік новых прэфэктураў ёсьць меньшым за лік прэфэктураў, паднятых да ступені вікарыятаў. Паменшаў таксама лік місіяў і провінцыяў „sui iuris" з 37 да 35, бо хоць і ўтворана адна новая місія, тры ранейшыя сталі апостальскімі прэфэктурамі.

Лік сяброў **кардынальскае колегіі** з 56 у пачатку мінулага году зьменшыўся, са сьмерцяй кардынала Bourne, да 52, у чым 26 італьянцаў і 26 чужаземцаў. Цяпер на 20 курыяльных кардыналаў ёсьць 2 чужаземцы: француз кардынал Lepicier і гішпанец кардынал Segura y Saenz. У працягу году памёрла 4 кардыналы: Ehrle, Mori, Пётра Gasparri і Bourne. Агулам за понтыфікату Піуса XI памёрла 55 кардыналаў. Назначана ў працягу 1934 г. каля 60 новых япіскапаў і архіяпіскапаў, а памёрла гэтых высокіх дастойнікаў Царквы каля 50.

**Парыж. У Гішпаніі адноўлена свабода манашаскага жыцьця.** Агенцыя Гаваса паведамляе з Мадрыду, што гішпанскі міністар справядлівасьці абвясьціў распараджэньне, на моцы якога пазваляецца рэлігійным конгрэгацыям закладаць новыя манашаскія пляцоўкі.

**Варшава. Скон сьвяшчэньніка-мучаніка ў саветах.** У Польшчу прыйшла вестка, што ў ссылцы ў савецкай Расеі памёр б. настаяцель у Мукарове каля Камянца-Падольскага а. Аляксандар Вежбіцкі.

**Раскол у праваслаўнай царкве ў Амэрыцы.** Нядаўна ў Клевэлэндзе (Злучаныя Штаты) быў сабор праваслаўнае царквы ў Амэрыцы. Сабор паклікаў на галаву амэрыканскае праваслаўнае царквы мітрапаліта Феафіла. Пастанове гэтай не падпарадкаваўся Антанін, япіскап Балтыморскі, прызнаючы над сабою ўладу маскоўскага мітрапаліта Сергія.

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Малы герой.

Да аднаго місіянэра ў Індыі забег аднаго дня ўвечары малы хлопчык, заплаканы, стрывожаны і зьмерзшы, просячы: „Ойча, я галодны, ня маю дзе спаць. Пазвольце мне застацца тут у Вас“.

Пасьля доўгага распытваньня місіянэр даведаўся, што гэты хлопчык уцёк з хаты, бо бацька хацеў абавязкава аддаць яго ў паганскую школу, а хлопчык моцна хацеў папасьць у місійную школу.

Місіянэр меў вялікі клопат, бо хлопчык быў няхрышчаны, а сьвецкія законы забаранялі прымаць дзяцей бяз згоды і дазволу бацькоў. З другога боку добрае сэрца місіянэра не пазваляла пакінуць хлопчыка на сумны лёс. Дык і даў яму, пакуль што, крыху есьці і пазволіў ператачаваць пад гасьціннаю страхою місійнага дому.

Калі назаўтра місіянэр, пасьля сьв. Літургіі, вярнуўся дамоў, дык сустрэў на падворку збройную банду індусаў, каторая цягнула нашага хлопчыка, зьвязанага і перапуджанага да апошняй меры.

— Бацюшка, — кажа павадыр гэтае банды,—я бацька гэтага хлопца і толькі я маю права прыказваць, у якую яму хадзіць школу. Яго дурныя і недарэчныя жаданьні патраплю бамбукам выбіць яму з галавы. А Вам нельга мяшацца ў нашыя справы.

Пасьля гэтых словаў уся банда адходзіць, а хлопчык зьбялелы, з дрыжачымі і выцягненымі ўперад рукамі ды з нямым паглядам вачэй просіць памагчы. Але сьвяшчэньнік, пакуль што, нічога ня можа парадзіць і толькі паручае малога героя апецы Госпада Ісуса Хрыста і Найсьвяцейшае Дзевы.

Цэлая банда індусаў прыйшла на месца, дзе паганцы складалі свае забабонныя ахвяры. Там, пасярэдзіне, стаяў палік, які расходзіўся ўгары, як вілы, у якія ўкладалі галаву ахвярнае жывёлы. На гэтае месца цягнуць нашага хлопчыка, тут, перад усім племем, ён мае адбыць заслужаную кару, тут ён мае змыць ганьбу, перапрасіць загневанага ідала, каб ён за адступніцтва хлапца не караў усяго племя.

Галаву хлопчыка ўкладаюць у гэтыя вілы, моцна зьвязваюць рукі і ногі, а два дужыя і жорсткія індусы пачынаюць акладаць нашага небараку бамбуковымі кіямі. Другія колам абкружаюць няшчасную ахвяру ды крыкам і воплескамі паддаюць запалу і бяз гэтага ўжо ласым на кроў і жорсткім катам. Калі каты думалі, што хлопчык мае ўжо даволі, дык крыху зволынілі яго зьвязанасьць і спыталіся:

— „Ці цяпер ужо дакляруеш пайсьці ў нашу школу?“

Малы наш герой, аднак-жа, выцірае сьлёзы і кажа дрыжачым ад слабасьці, але ня менш рашучым, галаском:

— „Не!“

Гэткая ўпорлівасьць яшчэ горш раззлавала індусаў. На гэта была, як ім здавалася, толькі адна рада: падвоіць і патроіць жорсткія ўдары. Дык вяжуць хлопчыка яшчэ мацней і яшчэ болей жорстка пачынаюць біць збалелае ўжо цела хлопчыка. Ужо сардэчная кроў пачынае пырскаць, хлопчык то стогне, то крычыць ад страшэннага болю, але жорсткіх катаў нішто ня зможа крануць. Нарэшце сілы пакідаюць хлопчыка зусім, ён млее і губляе прытомнасьць.

І гэта, пакуль што, уратавала яго ад далейшых балючых удараў. Калі хлопчык праз момант расплюшчвае вочы, дык звыраднелы бацька пытаецца ў яго:

— „Ну, дружа, цяпер дык напэўна ўжо згаджаешся хадзіць у індускую школу?"

Але малы герой і цяпер, хоць гэтак жорстка скатаваны і блізка што бяз жыцьця, ізноў адказвае:

— „Не!"

Цяпер ужо шалёнасьць і дзікая жорсткасьць індусаў была бязьмежнаю. Яшчэ раз прывязваюць да страшнага паліка і зноў страшэнна б'юць. Кроў цячэ, жывое цела ўжо пачынае адпадаць, быццам падзёртае, хлопчык крычыць і шэпча нейкія словы малітвачкі, пачутае ім ад каталіцкіх дзяцей. Пасьля ён губляе прытомнасьць і, калі жорсткія каты аслабляюць путы, падае бяз жыцьця каля стаўпа.

Праз тры гады пасьля гэтага ў місійным садочку весела забаўляецца грамада дзяцей. Галоўны тон тут задае і камандуе ўсёю грамадою рухлівы індусік, у якім толькі з трудом можам пазнаць нашага малога героя. Ён помніць яшчэ тыя балючыя і жорсткія ўдары, якімі акупіў сабе паступленьне ў місійную школу. Ён расказвае, як скончылася тое барбарскае бічаваньне. Нязломная воля малога героя зусім астаўпіла індусаў. Яны стаялі зусім бязрадныя і ня ведалі, што пачаць. Вырашыў нарэшце бацька, у якога мо' прабудзілася нейкая іскра літасьці, гледзячы на ўласную, гэтак жорстка скатаваную, кроў. Досіць таго, што ён крыкнуў: „Хлопчык упірысты, як асёл! З гэткага нягодніка і так ужо нічога ня будзе. Я выракаюся яго, ад сяньняшняга дня ён ужо ня мой сын, я ўжо не хачу аб ім нічога ведаць, хай сабе робіць, што хоча".

Хлопчык, хоць яшчэ ад слабасьці блізка што няпрытомны, усё-ж такі чуў гэтыя словы і, як толькі крыху прыйшоў да памяці, апошнімі сіламі дапоўз да місіі, дзе знайшоў болей, як яму маглі даць усе індускія школы. Яго гарачае жаданьне — быць сьвяшчэньнікам, каб выпаўніць тыя дзіўныя відзеньні, якія часта бывалі. Бо часта ён бачыў братоў з свайго племя, прывязаных да страшнага паліка і жорстка цьвічаных дзьябламі. Пасьля прыходзіць да яго нейкая дзіўна прыгожая і сьветлая Пані, атуленая ў блакітную бель, ды нейкім нявымоўна-салодкім і хапляючым за сэрца голасам заклікае яго:

— „Ідзі, працуй над тваімі братамі, рабі ім дабро і маліся за іх, даруй прасьледавальнікам сваю крыўду і ратуй душу".



## *Дружба.*

(*Байка*).

*Кот з сабакай так падружыліся,*
*Разам ўставалі, разам лажыліся.*
*Елі, гулялі разам абое.*
*Кот насіў з клеці мяса чужое.*

*Хваліў сабака здольну кацїну,*
*Як кот прыносіў яму сьвініну.*
*Можа-б і доўга дружба трывала,*
*Ды вось сьвініны ў клеці ня стала.*

*Смачнае мяса было сабаку,*
*Вось на ката ён зрабіў атаку:*
*— «Старайся далей, каб было ціха!»*
*Але кот бедны, як-бы на-ліха,*

*Сам галадаў ужо, ходзячы сонны.*
*Змушаны горам, увечар цёмны,*
*Шмыгнуў ён толькі у клець за дзьверы*
*Сабака скочыў у міг да кватэры,*

*Дзе жыў гаспадар, ды злодзея здрадзіў*
*Яго гаспадар міла пагладзіў.*
*А кот недзе думаў, ліжучы знакі:*
*„Такое сумленьне толькі ў сабакі.“*

*У. Б.*



*Przesyłka opłacona ryczałtem*

# Календар

на м—ц Люты 1935 г.

| **Стары стыль.** | | | **Новы стыль** | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
| 1 | Ч | Трыфона | 14 | Č | Walentaha |
| 2 | П | **Стрэценьне Госпадава** | 15 | P | Faustyna |
| 3 | С | Сымона і Ганны | 16 | S | Juljany |
| 4 | Н | **Н. аб мыт. і фарыс.** Сід. | 17 | N | **Syrazapusnaja** Jul. Kap. |
| 5 | П | Агаты муч. | 18 | P | Symona. Maksima |
| 6 | А | Марфы і Марыі. | 19 | A | Kanrada m., Zuzanny |
| 7 | С | Лукі і Парфена | 20 | S | Lawona |
| 8 | Ч | Хведара | 21 | Č | Feliksa i Leanory |
| 9 | П | Нікіфара муч. | 22 | P | Katedry św. Piotry |
| 10 | С | Харлампа | 23 | S | Piotry Dam. |
| 11 | Н | **Н. аб блуд. сыне.** Аўл.м. | 24 | N | **Miasazapusnaja**. Mac.ap. |
| 12 | П | Мелеція і Івэр. ік. Б. М. | 25 | P | Cezaryja. Zygfryda |
| 13 | А | Аляксандры | 26 | A | Alaksandra B. |
| 14 | С | Кірылы ап. слав. | 27 | S | Alaksandra m. i Anastazyi |
| 15 | Ч | Віл. Абр. Б. М. | 28 | Č | Teafila i Ramana |
| | | | | | SAKAWIK. |
| 16 | П | Памфіла і Парфір. | 1 | P | Albina i Antaniny |
| 17 | С | Вялм. Тодара | 2 | S | Alony. Paŭła |
| 18 | Н | **Н. Мясапусная. Лявона п.** | 3 | N | **Zapusnaja**. Kunehundy |
| 19 | П | Архіпа ап. | 4 | P | *Kazimiera K.* |
| 20 | А | Лявона ап. | 5 | A | Euzebija i Jana ad Kryža. |
| 21 | С | Цімахвея | 6 | S | *Papielec* |
| 22 | Ч | Знах. мошч. муч. у Эўгені | 7 | Č | Tamaša Akwinskaha |
| 23 | П | Палікарпа | 8 | P | Jana Božaha. Wincentaha |
| 24 | С | Знах. гал. Ів. Хрысьц. | 9 | S | Franciški Rym., Ryhora |
| 25 | Н | **Н. Сырапусная. Тараса** | 10 | N | **Ustupnaja.** 40 mučanikaŭ |
| 26 | П | Парфірыя і Сэвасьц. | 11 | P | Kanstantyna i Pałahiei |
| 27 | А | Пракопа | 12 | A | Ryhora Wialikaha |
| 28 | С | Васіля і Марыны. | 13 | S | *Suchi dzień*. Krystyny. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.